# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Чацвер, 9 чэрвеня 1994 года

№60 (10760)

Цана 100 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб мерах па павелічэнню вытворчасці і павышэнню якасці кармоў у 1994 годзе". У ёй адзначаецца, што, нягледзячы на змяншэнне ў апошнія гады ў гаспадарках рэспублікі пагалоўя жывёлы, забеспячэнне яе кармамі не палепшылася. Не павысілася якасць кармоў, што стрымлівае павышэнне прадуктыўнасці жывёлагадоўлі. А таму Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, аблвыканкомам і райвыканкомам лічыць адной з важнейшых задач павелічэнне вытворчасці і нарыхтоўкі кармоў для забеспячэння імі жывёлы, якая знаходзіцца ў калгасах, саўгасах і ва ўласнасці грамадзян. Ажыццявіць у 1994 годзе ў гаспадарках нарыхтоўку кармоў усіх відаў у разліку на адну ўмоўную галаву жывёлы ў колькасці не менш за 22 цэнтнеры кармавых адзінак, у тым ліку травяных — 14 цэнтнераў.

* * *

**У Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў, на якім абмеркаваны шэраг важных пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч, які выступіў на пасяджэнні, рэзка асудзіў маючыя месца факты неабгрунтаванага, без ведама Савета Міністраў, павышэння цэн на некаторыя тавары штодзённага попыту. Прычым, падкрэсліў прэм'ер-міністр, такое павышэнне часта адбываецца ў тых населеных пунктах і ў тыя дні, калі туды прыязджаюць для сустрэч з насельніцтвам, працоўнымі калектывамі члены ўрада. Ён даручыў адказным работнікам Саўміна, а таксама Міністэрства гандлю тэрмінова выехаць на месцы, разабрацца з сітуацыяй і прыцягнуць да адказнасці вінаватых.**

* * *

Міністэрства юстыцыі зарэгістравала статут новай палітычнай арганізацыі — Рэспубліканскай партыі Беларусі. Праграма-максімум партыі — забяспечыць уваходжанне рэспублікі ў вядучую групу краін свету па якасці жыцця і дабрабыту насельніцтва. Ажыццявіць гэтую праграму мяркуецца на аснове стварэння беларускай мадэлі эфектыўнага выкарыстання інтэлектуальнага і вытворчага патэнцыялу, пераўтварэння форм уласнасці і сістэм кіравання, развіцця дзелавой ініцыятывы, прыцягнення сусветнага вопыту і замежных інвестыцый. Пры распрацоўцы і рэалізацыі сваіх праграм партыя мае намер абапірацца на найбольш прафесійна кваліфікаваных і высокамаральных людзей, якім блізкія нацыянальныя інтарэсы рэспублікі.

* * *

**Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пры Міністэрстве абароны створана Ваенная інспекцыя. Гэтаму падраздзяленню прадастаўляюцца паўнамоцтвы па праверцы аператыўнай, баявой і паветранай вывучкі войск, стану ўзбраення, тэхнікі, ваенна-тэхнічнай маёмасці, службаў тылу, запасаў матэрыяльных сродкаў і забеспячэння іх захаванасці. Практычна ўсе пытанні жыццядзейнасці войск будуць пад неаслабным кантролем.**

* * *

У Цэнтры падтрымкі прадпрымальніцтва "Адраджэнне і развіццё" адбыўся першы выпуск спецыялістаў рынку каштоўных папер і бірж. Курс падрыхтоўкі быў арганізаваны ў рамках сумеснай праграмы па перападрыхтоўцы кадраў, распрацаванай Дзяржаўным камітэтам па знешніх эканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь і нямецкай аўдытарскай фірмай "КПМГ" пры ўдзеле Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па каштоўных паперах і на базе Мінскага навучальнага цэнтра Дзяржкамстата рэспублікі.

* * *

**Падрыхтоўка інвестыцыйных праектаў для развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі стала асноўнай тэмай перагавораў, якія прайшлі паміж намеснікам кіраўніка Міністэрства знешніх эканамічных сувязей Беларусі Уладзімірам Ярмолікам і прадстаўнікамі Сусветнага банка. У час гутаркі было падкрэслена, што такія праекты павінны быць валютаакупнымі. Наш бок выказаў пасланцам замежнай фінансавай установы пажаданне аб аказанні рэспубліцы тэхнічнай дапамогі па вызначэнню прыярытэтных галін у гэтай важнай сферы народнай гаспадаркі, дзе грашовыя сродкі давалі б найбольшую аддачу. Прадстаўнік Сусветнага банка пан Берман адзначыў добрую якасць нашай прадукцыі, асабліва мясной і малочнай. На яго думку, мы не павінны забываць укладваць замежныя інвестыцыі і ў развіццё ў вёсцы навуковага патэнцыялу.**

* * *

Метрабудаўнікі, магчыма, парадуюць у гэтым годзе мінчан і гасцей сталіцы ўводам новай лініі. Ужо ў снежні яны плануюць пракласці на тры кіламетры пуці для паяздоў ад станцыі "Фрунзенская" да "Пушкінскай" і пачаць падрыхтоўчыя работы па пракладцы "падземкі" да станцыі "Заходняя". А калі не ўзнікнуць новыя цяжкасці, то ў наступным годзе яны абяцаюць дапамагчы і тым, хто жыве ў раёне аўтазавода. Сюды будзе пракладзены маршрут ад станцыі "Трактарны завод". Паводле слоў начальніка будаўнічага ўпраўлення "Мінскметрабуд" Віктара Гамзакова, цяпер вядзецца будаўніцтва чатырох з пяці станцый і пяці перагонных тунеляў. Хоць з-за адсутнасці сродкаў на набыццё неабходных шпал, канструкцый і іншых матэрыялаў тэхніка выкарыстоўваецца толькі на 60—70 працэнтаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЗАМЕСТ ЖАВАЛЬНАЙ ГУМКІ — "МУРЗІЛКА"

Новы від прадукцыі пачалі выпускаць на хлебазаводзе ў г.Слуцку. Гэта мармелад «Мурзілка», які падобны на растваральную жавальную гумку. У склад яго ўваходзяць цукар, патака, падварка або павідла, жэлацін, араматызатары і фарбавальнікі.

— «Мурзілка» разнастайны не толькі па форме, але па колеру і смаку, — расказвае галоўны тэхнолаг хлебазавода М.Гусак. — Набыць яго могуць дарослыя і дзеці ў нашых фірменных магазінах і ларках.

*/НАШ КАР./.*

## ТАК "РАСПАРАДЗІЎСЯ" БОГ ІЛЛЯ

Пачатак лета сёлета выдаўся даволі дажджлівым. Аднак бог Ілля асабліва паказаў свой нораў 5 і 6 чэрвеня. Паводле звестак Белгідрамета, у Мінскім, Бярэзінскім і Барысаўскім раёнах за гэтыя дні выпала 55-56 міліметраў ападкаў. Гэта ў той час, як сярэдняя норма чэрвеня па нашай вобласці складае 75-85 міліметраў.

Як сябе «адчуваюць» у тых раёнах пасевы? Спецыялісты зараз гэта вывучаюць. А вось рака Бярэзіна становіцца ўсё больш паўнаводная амаль з кожнай гадзінай. Каля горада Беразіно засталося толькі 24 сантыметры да выхаду вады на пойму.

Цікава, што ў Мядзельскім раёне, напрыклад, за гэтыя дні выпала толькі 45 міліметраў ападкаў, у Стаўбцоўскім і таго менш — 26, а ў Ганцавіцкім Брэсцкай вобласці — толькі 20.

*Іван АБАБУРКА.*

## "І МЫ — У ЦЯЛЬНЯШКАХ"

«Узмоцнены» выпуск трыкатажных мужчынскіх кашуль накшталт вядомай цяльняшкі пачаўся ў трыкатажным атэлье г.п.Узда.

Узяліся за выраб навамоднай рэчы на спецыяльным абсталяванні вопытныя трыкатажніцы А.Зубовіч, Р.Чуркіна, Н.Барбарчык, Н.Сцепановіч. Майстры ёсць майстры: іх вырабы на прылаўках магазіна не залежваюцца. А з надыходам сезона — тым больш.

«І мы — у цяльняшках», — з гумарам зазначаюць мясцовыя юнакі, якім навінка прыйшлася вельмі даспадобы.

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ.*
*г.п Узда.*

Фотарэпартаж

# НЕ ПАТРЭБЕН І КЛАД...

Быццам спецыяльна для свята сям"і, якое адбылося ў пасёлку Беразінскае Маладзечанскага раёна і адкрыла, як выказаўся начальнік аддзела ўстаноў культуры і мастацтва ўпраўлення культуры аблвыканкома Леанід Пашкун, серыю святаў на Міншчыне, выдаўся цёплы сонечны дзень. І атмасфера панавала добразычлівая, шчырая. Настрой узнімалі не толькі работнікі культуры, якія адну за другой запрашалі на сцэну пад адкрытым небам у векавым дубовым парку лепшыя з лепшых сем"яў Маладзечаншчыны, але і самі віноўнікі ўрачыстасці. Ды і тыя, хто прыбыў на гэтае свята, не заставаліся толькі сузіральнікамі. Тут кожнаму можна было паспрабаваць сябе і ў розных конкурсах, і ў майстэрстве кулінарыі, і ў танцах, і ў песнях.

Усё гэта да глыбіні душы кранала, зачароўвала. Цудоўны настрой перадаваўся ўсім. Гучала вядомая беларуская песня "Сёння ў нашай хаце свята", а крыху воддаль, у цішы парку, можна было пазнаёміцца з малюнкамі дзяцей — Сяргея Харашэўскага, Андрэя Бобрыка, Віктара Грыба і іншых іх равеснікаў: "Буслы прыляцелі", "Мой родны кут", "Вясна", "Узыход сонца", прачытаць на транспарантах шматзначныя, ёмкія выразы: "Хто дбае, той і мае", "Без бульбы і без сала куса — няма яды для беларуса", "Калі чалавек галодны, то ні на што не згодны", "Жыццё пражыць — не поле перайсці", "Не патрэбен і клад, калі ў мужа з жонкай лад", "Хто ўмее весяліцца — той гора не баіцца".

Весялосці, што ішла ад шчырага сэрца, у той суботні дзень было шмат. Пад апладысменты сям"я прадстаўляецца гледачам. Як людзі жывуць і як працуюць? Што адметнага ў ёй? Як жывуць-гадуюцца дзеткі? На чым трымаецца сям"я? Што яе звязвае? Былі тут і тыя, хто ў міры і дружбе жыве ўжо і трыццаць, і дваццаць, і пятнаццаць гадоў. Былі такія, што не пражылі яшчэ і дзесяці гадоў. Але прадстаўнікі сем"яў упэўнена адказвалі на пытанні вядучых і аб цынкавым, і аб палатняным, і сярэбраным, і брыльянтавым вяселлі. Гаварылі аб гэтым звычайна бацькі, дзеці ж іх дапаўнялі вясёлымі прыпеўкамі пад акампанемент музычнага інструмента. І нябачная ніць даверу і шчырасці надоўга ўсталявалася паміж тымі, хто прыйшоў і сябе паказаць, і іншых паслухаць.

А трэба было не проста паказаць, а і даказаць, што менавіта твая сям"я адна з лепшых. І спаборнічалі прадстаўнікі сем"яў. Гаспадыні, напрыклад, на хуткасць і якасць прасавання бялізны качалкай, як гэта некалі рабілі нашы бабулі. А хіба проста было па таму ці іншаму прадмету або кветках назваць песню, ад якой і на сэрцы хораша, і дыхаецца лягчэй?!

Натхнёнасцю, непадробнай шчырасцю стан сваёй душы віноўнікі ўрачыстасці перадавалі ўсім. І людзі разам — са сцэны і з залы — спявалі "Ручнікі", "У садзе гуляла".

Быў і такі конкурс: хто найбольш назаве нацыянальных танцаў. Называлі. Але калі трэба было і станцаваць на ходнічку, не скруціўшы і не змяўшы яго, — тут не ва ўсіх атрымлівалася. Але за ўдзельнікаў розных конкурсаў радаваліся ўсе. Цёплая ўсмешка кранала вусны, калі вядучыя святочнай праграмы падкрэслівалі: сцеражыцеся, людзі, — беларус гуляе...

Трэба было адказаць, з чым аладкі на стол падаюць, прадэманстраваць перад усімі, як умееш дзеткам коску заплятаць. Наогул, як умееш весці хатнюю гаспадарку. Калі нешта не так хутка атрымлівалася, як хацелася б, на дапамогу прыходзілі цётка Мікіціха, бабка Магрэта, дзед Сымон — вядучыя свята, работнікі культуры.

(Заканчэнне на 3-й стар.)



## ГОРАД МОЖА СПАЦЬ СПАКОЙНА

На працягу некалькіх дзён рэспубліканскім штабам грамадзянскай абароны праводзілася комплексная праверка стану грамадзянскай абароны Барысава. Праверкай былі ахоплены завод "Аўтагідраўзмацняльнік" і мясакамбінат, хрустальны завод і дрэваапрацоўчы камбінат, камбінат хлебапрадуктаў, раённы вузел сувязі і гарадское тэрытарыяльнае медыцынскае аб"яднанне. Асаблівая ўвага звярталася на рэальнасць планавання і гатоўнасць аварыйна-выратавальных сіл і сродкаў аб"ектаў да дзеянняў па розных уводных, гатоўнасць ахоўных збудаванняў /бамбасховішчаў/, а таксама наяўнасць, стан і ўмовы захоўвання хімічных і медыцынскіх сродкаў аховы людзей.

На заканчэнне комплекснай праверкі была праведзена трэніроўка, у ходзе якой правяралася гатоўнасць гарадской камісіі па надзвычайных сітуацыях, гарадскога штаба ГА, а таксама некаторых службаў да дзеянняў у выпадку аварыі на чыгунцы. Адпрацоўваўся таксама комплекс мерапрыемстваў, неабходных пры ўзнікненні аварыі на Ігналінскай атамнай электрастанцыі.

Як паведаміў начальнік гарадскога штаба грамадзянскай абароны Аляксандр Аношка, гэтыя службы атрымалі добрую ацэнку. Сярод аб"ектаў народнай гаспадаркі з лепшага боку адзначаны стан грамадзянскай абароны на хрустальным заводзе, заводзе "Аўтагідраўзмацняльнік". Станоўча ацэнена дзейнасць сувязістаў і медыцынскай службы горада, камбіната хлебапрадуктаў і дрэваапрацоўчага камбіната.

Зыходзячы з вынікаў комплекснай праверкі, можна зрабіць вывад: любімы горад можа спаць спакойна.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

Крымінал-тэлетайп

## ДЗІЦЁ — НА ЗВАЛКУ

Першага чэрвеня, у Дзень абароны дзяцей, на звалцы непадалёку ад вёскі Замасточча Мінскага раёна знойдзены труп нованароджанага хлопчыка. Яго завезлі ў абласную бальніцу, каб медыкі далі кваліфікаваны адказ — як было ўчынена забойства? А ў той час супрацоўнікі міліцыі пачалі шукаць забойцу.

## РАЗБОРКА БЫЛА КАРОТКАЯ

На беразе возера каля вёскі Дубяні электрык з Барысава і нідзе не працуючы з Мінска распівалі спіртныя напіткі. Адзін з іх прыхапіў з сабой ружжо. А калі п"яная спрэчка дасягнула апагея, электрык схапіў зброю і не доўга думаючы спусціў курок. Яго сабутэльнік быў паранены ў спіну і галаву і дастаўлены ў бальніцу, а ваяўнічы стралок уцёк.

## НЕ СПІЦЦА ТОЛЬКІ РАБАЎНІКАМ

У Лагойскі РАУС звярнуўся жыхар Германіі. Немец вырашыў адпачыць на аўтастаянцы "Сасновы бор" ля шашы Мінск—Віцебск. Зламыснікі адчынілі дзверцы машыны і, пагражаючы пісталетам, забралі ў немца 900 марак. Вось цяпер і думай, ці варта рызыкаваць і ехаць у нашу краіну.

## ДЗЕ СІЛА ЁСЦЬ — РОЗУМУ НЕ ТРЭБА

У Барысаве ў камерцыйны магазін наведаліся тры невядомыя. Яны запатрабавалі ў дырэктара тры мільёны нашых беларускіх "зайчыкаў". Дырэктар аказаўся незгаворлівы. Тады злачынцы забралі гарэлку, лікёры, шампанскае, каву — усяго на два мільёны рублёў.

Міліцыя хутка выйшла на след зламыснікаў. Імі аказаліся жыхары горада, судзімыя, нідзе не працуючыя.

## РАЎНІВЫ АТЭЛА

У міліцыю пазванілі з бальніцы. Сюды паступіла жанчына з калгаса "Маяк" Барысаўскага раёна. Траўма была нанесена ёй сур"ёзная — разрыў кішэчніка. Аказалася, што жанчыну збіў яе муж. Прычына банальная — рэўнасць.

## ПАРАСЯЧЫХ СПРАЎ МАЙСТАР

Каб ажыццявіць задуманае, злодзей сарваў замок, а затым спакойна ўвайшоў у памяшканне свінафермы саўгаса "Каранскі" Лагойскага раёна, запіхнуў траіх парасят у мяшок і ўцёк.

**За тыдзень у вобласці ўчынены 133 злачынствы. З іх — 2 забойствы, 11 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, адно згвалтаванне, 44 крадзяжы дзяржаўнай і 51 — асабістай маёмасці. 19 дарожна-транспартных здарэнняў. 9 чалавек загінулі, 18 паранены. 11 пажараў. 3 чалавекі скончылі жыццё самагубствам.**

*Ірына АНДРЭЕВА.*

*Надвор"е*

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца цёплае надвор"е, без ападкаў. Тэмпература паветра — 20 — 25, у Мінску — 21 — 23 градусы цяпла.*

Прэзідэнцкі марафон

## КАНДЫДАТЫ — У ПРАМЫМ ЭФІРЫ

Правядзенне агітацыйнай кампаніі кандыдатамі на прэзідэнцкую пасаду па Беларускім тэлебачанні і рэспубліканскім радыё пачалося 7 чэрвеня выступленнем Аляксандра Лукашэнкі. Вечарам 9 чэрвеня на экранах тэлевізараў можна будзе ўбачыць Станіслава Шушкевіча і Васіля Новікава. У апошні дзень працоўнага тыдня кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь вырашылі даць сваім выбаршчыкам адпачынак. Але ўжо ў суботу ў 20.00 эфір зноў будзе дадзены прадстаўніку камуністаў Васілю Новікаву. У нядзелю, 12 чэрвеня, будуць паказаны відэаматэрыялы, прадстаўленыя "камандай" Аляксандра Дубко, і зноў адбудзецца сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам.

У панядзелак на экране сыдуцца Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч, а ў аўторак — Аляксандр Лукашэнка і Зянон Пазняк. Васіля Новікава і Станіслава Шушкевіча чакае "выпрабаванне тэлекамерай" 15 чэрвеня. Вечарам 16-га можна будзе зноў азнаёміцца з перадвыбарнымі праграмамі Вячаслава Кебіча і Аляксандра Дубко.

Пятніца 17 чэрвеня ні аднаго з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду не натхніла на тэлевыступленне, а вось субота і нядзеля завершацца на палітычнай ноце. 18 чэрвеня ў эфір выйдуць Станіслаў Шушкевіч і Аляксандр Дубко, а 19-га — Васіль Новікаў. У апошнія два дні, адведзеныя Законам для правядзення агітацыі з выкарыстаннем нацыянальнага тэлебачання, на экранах будзе Зянон Пазняк. 20-га яму складзе кампанію Аляксандр Лукашэнка, а 21-га — Вячаслаў Кебіч.

## РАКІРОЎКА Ў СТАНЕ ДЭМАКРАТАЎ

Днямі прайшлі перагаворы паміж лідэрам БНФ і старшынёй Партыі народнай згоды, у выніку якіх Генадзь Карпенка даў згоду ўвайсці ў склад "каманды" Зянона Пазняка. Было таксама пацверджана, што ранейшыя пагадненні паміж Пазняком і Карпенкам застаюцца ў сіле. Гэта азначае, што ў ценявым кабінеце міністраў БНФ мэр Маладзечна па-ранейшаму застаецца адным з найбольш магчымых кандыдатаў на пасаду прэм"ера.

— Мы высока ацэньваем гэтыя дамоўленасці, таму што ведаем дзелавыя якасці Генадзя Дзмітрыевіча, — заявіў журналістам кіраўнік ініцыятыўнай групы Зянона Пазняка Сяргей Навумчык. — БНФ лічыць, што ў час збору подпісаў за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты актывісты Фронту, дэпутаты апазіцыі ў Вярхоўным Савеце паводзілі сябе прыстойна. Больш таго, яны не толькі не адклікалі сваіх подпісаў, але і выказвалі сваю нязгоду з дзеяннямі фракцыі Грамады.

"Каманда" лідэра Народнага фронту лічыць падобны альянс важным крокам на шляху рэальнага яднання дэмакратычных сіл рэспублікі і справядліва расцэньвае, што ад яго ў многім будуць залежаць вынікі першага тура галасавання.

У той жа час мы не бачым ніякіх рэальных магчымасцей, каб ісці на выбары адзіным блокам са Станіславам Шушкевічам і нават не прылічваем яго да дэмакратаў, — заявіў Сяргей Навумчык.

*БЕЛІНФАРМ.*

# ВЫБАРШЧЫКАЎ ТРЭБА «РАЗВАРУШЫЦЬ»

**Галоўны цяжар кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь цяпер ляжыць на раённых, гарадскіх выбарчых камісіях. Ад іх залежыць вельмі многае: і парадак на выбарчых участках, і дысцыпліна ў працэсе галасавання, і, галоўнае, — справядлівасць, аб"ектыўнасць пры падліку галасоў. Таму палітычныя аб"яднанні, працоўныя калектывы выбралі ў камісіі самых сумленных, дастойных, тых, каму давяраюць. Чым жа сёння займаюцца гэтыя людзі ў Старых Дарогах?**

— Ужо складзены і ўдакладняюцца спісы выбаршчыкаў, — расказвае старшыня раённай выбарчай камісіі У.Я.Малалеткін. — У нас — 31 выбарчы ўчастак. Наведваем кожны з іх. Глядзім, каб у памяшканнях было зручна, утульна, дзейнічалі тэлефоны. На кожным участку абавязкова вызначаем месца, дзе на працягу дзесяці дзён да выбараў маглі б прагаласаваць людзі, якія не могуць зрабіць гэта 23 чэрвеня. Вядома, трымаць кабіны ўвесь гэты час няма сэнсу, усё ж мы ствараем умовы, якія б выключалі кантроль за волевыяўленнем выбаршчыкаў.

**— Ці адрозніваецца гэтая выбарчая кампанія ад папярэдніх?**

— І моцна. У першую чаргу — грузам адказнасці: першыя ж прэзідэнцкія выбары. Павышаная ўвага і кантроль за імі. Новыя ўмовы, патрабаванні. Вось я апублікаваў у мясцовай газеце артыкул, падрабязна расказваю аб тым, дзе і як можна прагаласаваць. Яшчэ раз папярэдзіў: ні ў якім разе не разлічвайце, што хтосьці можа атрымаць бюлетэні за вас ці наадварот, як нярэдка здаралася раней... Цяпер члены ўчастковых камісій не выступаюць у якасці агітатараў, не запрашаюць галасаваць за нейкую кандыдатуру. Няхай гэта робяць грамадскія аб"яднанні, працоўныя калектывы, якія хацелі б бачыць свайго чалавека Прэзідэнтам Беларусі.

**— На ваш погляд, актыўнасць выбаршчыкаў будзе высокая?**

— Мяркуючы па сённяшнім настроі людзей — не вельмі. Адчуваецца нейкая абыякавасць, расчараванне. Але яшчэ ёсць час, каб адпаведныя сілы "разварушылі" выбаршчыкаў. Гэта абавязкова трэба зрабіць. Бо вельмі ўжо моцна залежыць ад выбараў першага Прэзідэнта далейшы лёс рэспублікі, кожнага з нас.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ ПОТРЕБИТЕЛЬСКАЯ КООПЕРАЦИЯ

**Прошли областной и республиканский съезды потребительской кооперации. Они подтвердили жизнеспособность системы, ее несомненный потенциал как самого близкого партнера хлебороба. Какова сегодня обстановка в потребкооперации, чем озабочены кадры, как строятся ее взаимоотношения с местными властями? Об этом рассказывают председатель Логойского районного Совета депутатов Н.А.КРЕСИК и председатель правления Копыльского райпотребсоюза Н.Г.СТАДНИК.**

*Н.Кресик:*

# УЧИТЬСЯ ТОРГОВАТЬ ЦИВИЛИЗОВАННО

— Нас не может не интересовать и не волновать судьба потребительской кооперации, ее место в системе новых рыночных отношений. Из личного опыта я знаю, что потребительская кооперация имеет огромный хозяйственный потенциал.

За последние пять лет исполком районного Совета и работники потребительской кооперации выработали определенные формы совместной работы, на местах Советы стали больше проявлять заботы о делах потребительской кооперации.

За 1993 год темпы роста розничного товарооборота в действующих ценах к уровню 1992 года возросли в 10,2 раза. Продажа товаров на одного жителя района достигла 222 тыс.рублей.

В течение двух-трех лет структура товарной массы, поступающей в район, существенно изменилась. Ее недостаточно для удовлетворения потребностей населения.

И здесь четче должна работать коммерческая служба.

В нынешних условиях ее первостепенной задачей должно быть не только изыскание и закуп товаров, но и экономические методы управления процессом. Особенно важное значение приобретают кредит и оборачиваемость товаров, глубокое изучение спроса покупателей и тесная работа с производителями.

Однако этот резерв используется еще недостаточно.

На протяжении 1993 года товарные запасы выросли в 11 раз, а товарооборот увеличился только в 10,2 раза. Это вызвано не только ростом цен, но и замедлением оборачиваемости товаров.

О торговой деятельности покупатели судят прежде всего по наличию товаров на прилавках. По их мнению, чем их больше, чем разнообразнее ассортимент, тем лучше работают магазины.

Товарное обеспечение нашего района не только недостаточное по объему, но и не сбалансировано по ассортименту.

Много нареканий поступает от населения на перебои в торговле сахаром, мукой, крупой, макаронными изделиями. Не всегда можно купить зубную пасту, мыло, стиральный порошок.

Как же все это можно объяснить покупателю?

Его прежде всего волнует вопрос, почему он не может купить необходимый товар, и видит виновником этого прежде всего работника прилавка.

В жестких экономических условиях я не сторонник насыщения прилавков любой ценой. Необходимо учиться торговать цивилизованно, изучать конъюнктуру рынка, преодолевать ценовые перипетии, знать покупательский спрос населения.

Безусловно, потребительская кооперация нуждается в реформировании, в создании более гибких структур, которые должны постоянно приспосабливаться к современной обстановке. Что не всегда получается.

Ведь 60-65 процентов товаров поступает в торговую сеть во второй половине месяца.

Это говорит о том, что отсутствует четкая система управления товарными ресурсами.

Работа всех отраслей потребительской кооперации во многом зависит от состояния материально-технической базы.

Поэтому ее укрепление и дальнейшее развитие является повседневной заботой как кооператоров, так и местных Советов.

У нас в районе за пять лет за счет нового строительства введено в действие восемь магазинов, в том числе четыре на селе, цех по переработке и заморозке овощей и фруктов.

Произведена реконструкция под переспециализацию торговых предприятий. Открыты два магазина "Ветеран", "Мясо-молоко", салон-магазин при швейном цехе.

В объединении общественного питания расширена специализированная сеть за счет реконструкции, высвободившихся помещений, после ввода в эксплуатацию универмага. На базе бывшего магазина "Обувь" открыт магазин "Кулинария" с кондитерским цехом, бывшего универмага — ресторан на 80 мест и другие объекты.

Безвозмездно по решению исполкома районного Совета райпотребсоюзу переданы помещение в Логойске под пивной бар и столовая ПМК-68. Произведена реконструкция Плещеницкого хлебозавода с дополнительным введением мощностей кондитерского производства.

Особой заботы требует обслуживание жителей малых и отдаленных деревень, где нет стационарной торговой сети, а их в районе 87.

Большим вопросом остается строительство торгового центра в деревне Калачи, которая пострадала от аварии на Чернобыльской АЭС.

Второй важной задачей в вопросе строительства является хлебозавод в райцентре. Ибо он находится в аварийном состоянии.

*Н.Стадник:*

# КОНТАКТ БЕЗ ИСКРЕНИЯ

— Копыльский район известен высокоразвитым сельским хозяйством, крепким крестьянским подворьем. По валовому производству основных видов продукции занимает лидирующие позиции в области.

В личных подсобных хозяйствах производится более 60 процентов картофеля и плодов, около 80 процентов овощей. Ежегодно выращивается более 21 тыс.свиней, 8,5 тыс. крупного рогатого скота.

Это, безусловно, требует от нас особого внимания к нуждам сельских тружеников, а также организаторской работы по вовлечению в оборот резервов производства сельскохозяйственной продукции.

Мы сохранили объемы заготовок мяса, плодоовощей, обеспечивается рост выпуска продукции, работают все магазины, столовые, а малонаселенные пункты обслуживаются автолавками и лавками на дому.

Существенную помощь райпотребсоюзу оказывает исполком райсовета. В тесном контакте работаем с руководителями хозяйств и предприятий.

Сессиями райсовета дважды рассматривался вопрос "О мерах по дальнейшему развитию потребительской кооперации и созданию в районе базы для производства товаров народного потребления", а также мероприятия по оказанию помощи райпотребсоюзу в свете известного постановления Верховного Совета Республики Беларусь.

Для выполнения намеченной программы были привлечены промышленные предприятия, строительные организации, колхозы и совхозы.

Общими усилиями достигнуты заданные объемы закупок мяса, животноводческого сырья, получено дополнительно 300 пар обуви, 32 тонны мяса, 16 тонн сыра, выделялись железобетонные изделия, в реконструкции и строительстве магазинов участвовали строительные организации, с помощью хозяйств проводилось дополнительное укрепление объектов. Ряд добротных помещений передан в сельпо для переоборудования в магазины.

В районе давно сложилась практика проведения выездных семинаров-совещаний на объектах торговли и общепита совместно с представителями хозяйств, председателями исполкомов сельских Советов, где на местах изучаются и решаются вопросы улучшения обслуживания населения всеми отраслями, заслушиваются отчеты и сообщения наших кадров.

Эта работа регулярно освещается по радио, в районной газете, где мы имеем своего корреспондента, что способствует усилению связей наших организаций с пайщиками, жителями села, взаимной информированности, повышает в конечном счете наш авторитет.

Торговля в условиях крайней ограниченности и дороговизны кредитных ресурсов, обесценивания собственных оборотных средств не добилась ускорения оборачиваемости товаров, уровень которой составил 59 дней. Впервые за ряд лет произошел спад производства.

В результате едва удалось свести концы с концами. Но не в характере работников потребительской кооперации сетовать на трудности, искать оправдания.

Следуя этому правилу, правлением райпотребсоюза принимаются действенные меры по повышению эффективности работы. В частности, для ускорения оборачиваемости товаров, после тщательного изучения обстановки, в 130 магазинов ТПС завозятся простейшие товары, которых стало не хватать в последнее время сельским жителям. Ищем где только можно рабочую одежду подешевле, обувь, трикотаж, хозяйственные товары, предметы бытовой химии.

Практически не пользуемся услугами коммерческих структур, за исключением покупки таких товаров, как масло растительное, крупа, сахар.

В этом же перечне мер — выездная и выносная торговля, переразмещение товаров, упорядочение режима работы, принятие напряженных заданий, увязка оплаты труда коммерческого аппарата с конечным результатом и ряд других.

В общественном питании — самообеспечение дешевой и высококачественной продукцией, всемерная поддержка школьных и сельских столовых.

В заготовках — освоение и вовлечение в оборот тех ресурсов у населения, о которых говорилось выше. Здесь мы еще не проявили себя в полной мере.

В производственной деятельности, кроме традиционных наименований, — наращивание объемов по мебельному и швейному производству, а также подготовка базы для новых изделий.

Справедливости ради нужно отметить, что у нас еще имеется много недостатков и упущений. Не хватает умения [illegible] просматривать перспективу финансово-хозяйственных результатов, тем самым способствовать принятию оперативного и верного решения.

Вот поэтому и недобираем часть доходов, несем потери.

Вопреки всем трудностям в районе ведется строительство четырех магазинов, завершается строительство хлебозавода, строительной базы, общежития, продолжается реконструкция автобазы и подсобного хозяйства. Большинство объектов близки к завершению.

# РАЗАМ МЫ МОЖАМ ЗМЯНІЦЬ НАША ЖЫЦЦЁ

Гэтыя словы ўзяты з падагульняючага дакумента праведзенай у Мінску міжнароднай сустрэчы прадстаўнікоў таварыстваў дружбы 13 краін блізкага і далёкага замежжа.

Нярэдка складаныя пытанні, якія не пад сілу прафесійным дыпламатам, хутчэй вырашаюцца ў сферы народнай дыпламатыі. Таварыствы дружбы, якія дзейнічаюць у дзесятках дзяржаў, аб"ядноўваюць намаганні тых, хто не толькі хоча, але і па магчымасці робіць свет дабрэйшым, лепшым, больш ветлівым. А які сродак тут найбольш безадмоўны?

— Культура, — заўважыў, адкрываючы сустрэчу, старшыня праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Арсен Ваніцкі, — вось той адчувальны і надзейны інструмент для ўмацавання міжчалавечых кантактаў, лепш за які нічога не прыдумана за мінулыя дваццаць стагоддзяў.

Менавіта высокай культурай, суперажываннем прадыктаваны дзеянні жыхароў зямель Ніжняя Аўстрыя і Шлезвіг — Гальштэйн, італьянскіх правінцый Фрэулі, Умбрыін Калабрын, вучняў амерыканскай школы Рамапо з акругі Спрына-Вэляі і іншых актывістаў, якія аказалі значную гуманітарную дапамогу насельніцтву і, у прыватнасці, дзецям Беларусі ў сувязі з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Глыбока сімвалічна, гаварылася на сустрэчы, што яна адбылася напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашызму. Урокі мінулай вайны павінны стаць для нас напамінкам аб велізарнай каштоўнасці міру і дружбы для народаў, якія насяляюць нашу блакітную планету.

*Таццяна ГУРТАВЕНКА.*

## Мінская хроніка

### ВОДААХОЎНЫЯ ЗОНЫ

Супрацоўнікі Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў распрацавалі схему водаахоўных зон і прыбярэжных палос рэк і вадаёмаў горада Мінска. Шырыня іх складае не менш як 100 метраў. Тут забараняецца весці гаспадарчыя і будаўнічыя работы, апрацоўваць індывідуальныя і калектыўныя агароды, высякаць дрэвы і хмызняк.

### ВЯРНУЛІСЯ З ІСПАНІІ

Каля двух месяцаў на гастролях у Іспаніі знаходзілася оперная трупа Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Сёння мінчане і госці сталіцы зноў сустрэнуцца з артыстамі, якія ў цыкле "Маэстра Анісімаў запрашае" пакажуць оперу Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры" і сімфанічную сюіту "Шахеразада".

### КУРОРТ У ГОРАДЗЕ

На летні перыяд інстытут "Зачараванне" прапануе мінчанам шэраг аздараўленчых працэдур. Гэта плаванне ў басейне з мінеральнай вадой, масаж, каскадны душ, жамчужныя ванны, сауна, парылка... За час заняткаў наведвальнікі засвояць сістэму рацыянальнага харчавання і правільнага дыхання, пройдуць біяэнергетычную карэкцыю і дыягностыку арганізма.

### УСЁ ПРА БЯСПЕКУ

У памяшканні Белдзяржпраекта гарадская асацыяцыя "Насельніцтва за бяспеку" ў гэтыя дні праводзіць выстаўку-кірмаш "Бяспека-94". Наведвальнікі могуць пазнаёміцца з навейшымі айчыннымі і замежнымі сродкамі абароны людзей і маёмасці, аховы навакольнага асяроддзя, супрацьпажарнай бяспекі, атрымаць кансультацыі па самых розных пытаннях.

### ПРАВЕДЗЕНА РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

Мінскі гарвыканком рэарганізаваў гарадскі фізкультурна-аздараўленчы камбінат пры ўпраўленні жыллёвай гаспадаркі. На яго аснове створаны гарадское аб"яднанне лазневай гаспадаркі і раённыя аб"яднанні фізкультурна-аздараўленчай работы па месцы жыхарства. Газета "Вечерний Минск" паведаміла, што ў састаў новага аб"яднання ўвайшлі дванаццаць гарадскіх лазняў, фізкультурна-аздараўленчы комплекс "Серабранка" і вытворча-рамонтная база.

### ПАПАЎНЕННЕ НА ЧЫГУНЦЫ

З пераходам на летні графік руху па чыгунцы ўводзяцца новыя цягнікі, якія пройдуць праз Мінск. Гэта Брэст—Масква, Калінінград—Бранск, Варонеж—Брэст, Саратаў—Гродна. Аднаўляецца рух цягніка Мінск—Талін.

### ДЭКАДА БІЗНЕСУ

З 10 па 20 чэрвеня ў Мінску пройдзе "Дэкада бізнесу". Яна ж фактычна пачалася раней, калі Саюз прадпрымальнікаў Беларусі сумесна з нямецкімі фірмамі адкрылі школу камерцыі, дзе навучанне праходзяць кіраўнікі прыватных і дзяржаўных вытворча-гандлёвых прадпрыемстваў.

### "СКЛЕП" І "КОЛА"

Трынаццаць дзіцячых аматарскіх кінастудый прынялі ўдзел у фестывалі фільмаў, знятых па ўласных сцэнарыях. Узнагародамі адзначаны мінскія студыя "Склеп" і творчая майстэрня "Кола". Яны паказалі стужкі "Балада аб адным крыле" і "Вочы".

### ДА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

На нарадзе ў Мінгарвыканкоме кіраўнікоў гарадскіх службаў і старшынь райвыканкомаў разглядалася пытанне аб падрыхтоўцы гандлёвай сеткі да навучальнага года. Адзначалася, што ў магазіны завезена ўжо каля мільёна сшыткаў, вырашаюцца пытанні забеспячэння гандлёвых прадпрыемстваў школьнай формай.

*Павел ЖУРБА.*

■ Думкі ўслых

# ЛЁС СЕЛЬСКАГА КЛУБА

У каго што баліць, той аб тым не змаўчыць. Калі сельскі клуб хварэе, то яго неабходна лячыць. І лячыць тэрмінова, прафесійна, а не закрываць, як гэта робіцца ў некаторых раёнах. Бо калі пайсці і далей па такім шляху, то не здабраваць і самім аддзелам культуры.

Яны таксама апынуцца на абочыне: жыццё дыктуе прынцыпова новыя падыходы да сельскай культурнай інфраструктуры. Аўтаномна сучаснаму клубу зараз не выжыць. Таму ён павінен будаваць сваю работу ў цесным кантакце са школай, стаць яе спецыялізаваным класам — лабараторыяй народнай творчасці.

У гэтым сэнсе ў нашай вобласці ўжо ёсць некаторыя напрацоўкі. Ідуць настойлівыя пошукі шляхоў рацыяналізацыі клубнай справы. Ім папярэднічае стараннае вывучэнне мастацкіх каштоўнасцей малых і вялікіх паселішчаў. На ўлік бяруцца ўсе майстры прыкладнога мастацтва, самабытнага музычна-песеннага фальклору і этнаграфіі.

Такая «інвентарызацыя» ў Валожынскім раёне дазволіла сканцэнтраваць увагу клубаў на прыярытэтных напрамках іх дзейнасці. Прытым гэта робіцца ў цесным адзінстве паміж формай і зместам работы. Напрыклад, Дзесятніцкі сельскі клуб набыў статус Дома фальклорна-этнаграфічнай спадчыны, Узбалацкі — Дома рамёстваў, Пяршайскі — Цэнтра тэатральнага мастацтва.

Новыя тэматычныя кірункі дзейнасці клубных установ з улікам сучасных абставін вызначаны і для шэрагу клубаў у Слуцкім раёне. Гацукоўскі СДК набыў профіль Дома фальклору, Квасыніцкі — Цэнтра эстэтыкі, Лучнікоўскі — Цэнтра мастацтва.

А ў Вілейскім раёне Талуцкі народны дом стаў узорам спецыялізаванай дзейнасці па ткацтву. Гэты эксперымент захапіў усіх культработнікаў раёна. Па ініцыятыве загадчыка аддзела культуры райвыканкома С.С.Трыдзенскага тут ствараецца цэлы запаведнік старажытных рамёстваў. Адкрыта і плённа працуе «Школа-спадчына» для дзяцей і падлеткаў. Завяршаецца будаўніцтва раённага цэнтра народнай творчасці.

Крануўся лёд у Любанскім раёне. У вёсцы Дарасіно запрацавала керамічная майстэрня. І зараз яе гаршкам і збанкам знайшоўся трывалы попыт.

Патрабаванні часу адбіліся на арганізацыйна-творчым удасканаленні культурнай работы з насельніцтвам у Мядзельскім, Смалявіцкім, Стаўбцоўскім раёнах. І ў кожнага з іх ёсць свае падыходы, спецыфічныя асаблівасці.

Ініцыятары клубных рэформ усведамляюць, што першапачатковыя структурныя змены — гэта толькі канцэптуальная аснова, «ілюстрацыйная мадэль» у якасці арыенціра для больш шырокай і глыбокай дзейнасці ў вызначаным кірунку.

На жаль, многія ўстановы і органы культуры яшчэ не дайшлі да запаветных куточкаў народнай спадчыны. І гэта немалы пралік у іх працы. Тым больш што заўтра можа быць яшчэ горш, калі не зрабіць усё магчымае для аб"яднання вакол клубаў мясцовых носьбітаў духоўных і матэрыяльных набыткаў. Не ўзяць іх, як кажуць, пад надзейнае крыло.

*Адольф СУРЫНОВІЧ,*
*намеснік дырэктара абласнога цэнтра народнай творчасці.*

# СУСТРЭЧА Ў ГІМНАЗІІ

Шмат сяброў у педагагічнага калектыву гімназіі № 2 г.Барысава. Яго клопаты шчыра падзяляюць людзі самых розных прафесій — інжынеры, урачы, работнікі прылаўка, атэлье, бібліятэкары, паштальёны. І гэта зразумела. Без цеснага ўзаемадзеяння, адзінства намаганняў сям"і, школы, грамадскасці сёння немагчыма паспяхова вырашыць задачы выхавання падрастаючага пакалення.

Многія, напэўна, могуць згадаць бацькоўскія сходы, на якіх ва ўсіх грахах абвінавачваліся сем"і. Чаго ім толькі не прыпісвалі за пралікі ў выхаванні дзяцей.

У гімназіі № 2 пайшлі іншым шляхам. Тут сустрэчу з бацькамі ператвараюць у школьнае свята. Вось і нядаўна ім паказалі цікавую канцэртную праграму, падрыхтаваную педагогамі гімназіі і яе навучэнцамі. На працягу гадзіны сцэну не пакідалі спевакі, танцоры, гумарысты. А потым жадаючыя маглі сустрэцца з псіхолагам, які даваў падрабязныя кансультацыі па ўзнятых пытаннях. Настаўнікі расказалі бацькам аб паспяховасці іх дзяцей.

Праведзены сумесна вечар дапамог глыбей усвядоміць задачы гімназіі, больш акрэслена вызначыць бацькоўскую ролю ў выхаванні дзяцей.

*Уладзімір ВЕРАСКОЎ.*

■ Фотафакт



# ДАКОР

*Пры ўездзе ў вёску Карзуны — цэнтральную сядзібу калгаса "Беларусь" Чэрвеньскага раёна нельга не залюбавацца новымі дыхтоўнымі катэджамі. А за імі — расхрыстаная, закінутая будыніна. Вачніцы пустых аконных праёмаў з дакорам глядзяць на людзей.*

*— Тут павінен быць цэлы культурна-спартыўны цэнтр, — расказвае старшыня праўлення А.В.Чыжык. — Гады тры назад пачалі ўзводзіць яго. Фінансаваў будоўлю Мінскі гараграпром, у сістэме якога тады знаходзілася гаспадарка. Цяпер нас вывелі з гэтай структуры, і ўсё заглухла. Якія можам сродкі — выдзяляем, але гэта так, кропля ў моры. Па сутнасці засталіся аддзелачныя работы. А нам замест дзяржаўнай дапамогі прапаноўваюць прадаць каробку. Ні ў якім разе не пойдзем на гэта.*

*Наваяўленыя камерсанты, вядома ж, ухапіліся б за такі скарб. Толькі ці падумалі б яны пра вяскоўцаў? Сумняваемся. Клуб, спартыўная зала, бібліятэка, ашчадная каса, пошта, выяўленчая студыя, невялікі лазневы комплекс, калгасная кантора /у старым будынку яе мяркуецца размясціць амбулаторыю/ вялікіх прыбыткаў не прынясуць. А людзям яны жыццёва неабходныя. Побач жа жывуць амаль 90 сем"яў перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, шмат моладзі, якая вольную часіну прагульвае ў зашмальцаваныя карты ды топіць у "Раялі".*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# "ЛЕКІ" ДЛЯ НЕПАВАРОТЛІВЫХ

Затрымка з выдачай зарплаты ў "Беларускаліі" — з"ява не такая ўжо і рэдкая. То хтосьці грошы своечасова не пералічыў, то бухгалтэрыя штосьці зрабіць не паспела... А расплачваліся за гэта ў першую чаргу радавыя калійшчыкі, бо не атрыманыя імі грошы паціху "з"ядала" інфляцыя.

Цяпер гэтай з"яве павінен быць пакладзены канец. Прафсаюз хімікаў аб"яднання ў дагавор, заключаны з адміністрацыяй "Беларускалія", унёс пункт, дзе гаворыцца, што заработная плата за папярэдні месяц павінна быць выплачана не пазней як 25 чысла бягучага. У выпадку затрымкі за кожны пратэрмінаваны дзень калійшчыкі атрымаюць дадаткова па аднаму працэнту ад налічанай сумы.

Сёння на выдачу месячнага заработку "Беларускалій" расходуе мільярды рублёў. Няцяжка прыкінуць, чаго будзе каштаваць нават дзень затрымкі з выдачай зарплаты. Таму наўрад ці вінаватыя застануцца без пакарання. Што, безумоўна, яшчэ больш павысіць адказнасць, дысцыпліну ў працоўным калектыве.

*/Наш кар./.*

■ У інспекцыі Кантрольнай палаты РБ па Мінскай вобласці

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПАТРАБУЕ ГАЛОСНАСЦІ

Дзяржаўнай праграмай прыватызацыі прадугледжаны тэмпы яе развіцця, формы, метады і напрамкі.

Згодна з гэтай праграмай, у 1993 годзе належала прыватызаваць каля 10 працэнтаў кошту асноўных фондаў.

У адпаведнасці з пастановамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь мясцовыя Саветы дэпутатаў павінны былі распрацаваць і зацвердзіць да 1 красавіка 1993 года праграмы прыватызацыі аб"ектаў, якія знаходзяцца ва ўласнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў, вызначыць крыніцы фінансавання работ па прыватызацыі ўласнасці.

Аднак праверкай, праведзенай у лютым-сакавіку 1994 года інспекцыяй Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці, устаноўлена, што многімі мясцовымі Саветамі ва ўстаноўленыя тэрміны гэтыя рашэнні Вярхоўнага Савета не выкананы.

Праграмы прыватызацыі на ўзроўні райгарвыканкомаў вобласці былі распрацаваны ў верасні-кастрычніку 1993 года /Вілейскі, Дзяржынскі, Капыльскі, Мінскі, Стаўбцоўскі раёны і Заслаўскі гарадскі Савет/, у снежні 1993 года — Валожынскім, Салігорскім райсаветамі.

Зыходзячы з колькасці адзінак адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў на ўзроўні "раён-горад-вобласць", у Мінскай вобласці патрэбна было распрацаваць і зацвердзіць 31 праграму прыватызацыі. Аднак яны распрацаваны і зацверджаны пакуль што 24 мясцовымі Саветамі дэпутатаў. На момант праверкі адсутнічалі праграмы прыватызацыі ў гарадах Вілейка, Барысаў, Слуцк, Салігорск, а таксама ў Чэрвеньскім, Барысаўскім, Слуцкім раёнах.

Праведзены аналіз праграм прыватызацыі выявіў, што ў парушэнне патрабаванняў Закона Рэспублікі Беларусь "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" і Дзяржаўнай праграмы не ўсімі райгарсаветамі складзены пералікі аб"ектаў камунальнай уласнасці /Мядзельскі, Салігорскі райсаветы/. Значная частка праграм у выніку таго, што яны зацвярджаліся ў канцы 1993 года, распрацаваны на 1993—1994 гады, і ў пераліках прадпрыемстваў, як правіла, не вызначаны аб"екты, якія павінны быць прыватызаваны ў 1993 годзе. У Лагойскім жа раёне праграма прыватызацыі распрацавана ажно на 3 гады, пры адсутнасці пераліку аб"ектаў прыватызацыі на 1993 год.

Паводле даных Дзяржкаммаёмасці, у вобласці прыватызаваны 31 аб"ект камунальнай уласнасці супраць 45 запланаваных з ацэначным коштам маёмасці 957,71 млн.рублёў, сумай выкупу — 1.066,5 млн.рублёў, з агульнай колькасцю працуючых 263 чалавекі.

Пры гэтым трэба адзначыць, што ў мінулым годзе ў Мінскай вобласці на ўзроўні абласной камунальнай уласнасці было запланавана прыватызаваць 7 аб"ектаў, а прыватызаваны ўсяго 2 аб"екты. А ў гарадах Жодзіна і Заслаўе — адпаведна 8 і 6 аб"ектаў, але ні адзін аб"ект не быў прыватызаваны.

Праверка асобных дакументаў паказала, што ў працэсе прыватызацыі ў 1993 годзе мелі месца парушэнні і недахопы. У іх ліку: парушэнні патрабаванняў нарматыўных дакументаў, якія рэгламентуюць парадак адлічэння сродкаў, паступаючых ад прыватызацыі, на адпаведныя рахункі. Напрыклад, з-за парушэння патрабаванняў Закона Рэспублікі Беларусь "Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год" Любанскім райвыканкомам усе сродкі, атрыманыя ад прыватызацыі ваеннага гарадка, былі залічаны на рахунак мясцовага бюджэту. У выніку чаго рэспубліканскі бюджэт недаатрымаў 118,408 млн.рублёў, а фонд прыватызацыі Дзяржкаммаёмасці — 19.735 млн.рублёў.

Дапускаюцца таксама парушэнні патрабаванняў нарматыўных дакументаў, якія рэгламентуюць парадак адлічэння сродкаў, паступаючых ад прыватызацыі, на адпаведныя рахункі. Напрыклад, Мядзельскім райсаветам прададзена памяшканне былой кацельні ў г.п.Нарач ва ўласнасць фізічным асобам — галоўнаму інжынеру раённага вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Чарняўскаму і кіраўніку Дзевятлоўскаму па астатковаму кошту, без ацэнкі памяшкання бюро тэхнічнай інвентарызацыі, без індэкса кошту на момант продажу. У гэты ж час сесія райсавета сваім рашэннем забараняла продаж маёмасці прадпрыемстваў іх кіраўнікам.

Па гэтых і іншых парушэннях дзеючага заканадаўства адносна раздзяржаўлення і прыватызацыі інспекцыяй Кантрольнай палаты РБ накіраваны ў мясцовыя органы ўлады прадпісанні з патрабаваннем ліквідаваць дапушчаныя парушэнні.

Хацелася б адзначыць: сёння Дзяржкаммаёмасцю ў асноўным распрацаваны нарматыўныя дакументы па прыватызацыі. Адпаведныя рашэнні прыняты абласным Саветам дэпутатаў, і стрымліваць прыватызацыю няма ніякіх падстаў.

Патрэбна толькі, каб яна ішла планава, галосна, з папярэдняй падрыхтоўкай, каб людзі, асабліва ў працоўных калектывах, ведалі: што, дзе і калі прыватызуецца. Тады будзе менш парушэнняў і больш даверу да гэтага працэсу.

*Генадзь КАПАЧОЎ,*
*галоўны кантралёр інспекцыі.*

# ХТО «ЗНОЙДЗЕ» ПАПАРАЦЬ - КВЕТКУ

## Да адкрыцця II Рэспубліканскага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-94"

ЛЁСЫ многіх слынных людзей звязаны з горадам Маладзечна. Сярод іх — салісткі Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета Вольга Цішына, заслужаная артыстка Беларусі Людміла Колас, саліст Санкт-Пецярбургскага тэатра оперы і балета Анатоль Дзічкоўскі, саліст Пражскага опернага тэатра Валянцін Пралат, артыстка акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Галіна Букаціна, вядомыя кампазітары Алег Елісеенкаў, Зміцер Яўтуховіч, спявак Аляксандр Ціхановіч, спявачка Тамара Раеўская. Хацеў бы зазначыць, што наш зямляк Юрый Антонаў разам з Лаймай Вайкуле і Тамарай Гвердцытэлі як госці прымуць удзел у фестывалі "Маладзечна-94".

Нават у такі няпросты час духоўна-культурнае жыццё на Маладзечаншчыне на вышыні: тут добра ведаюць заслужанага работніка культуры Беларусі, кіраўніка народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" Іосіфа Сушко, кіраўніка народнага фальклорнага ансамбля "Маркаўчанка" Веру Зікунову, кіраўнікоў узорнага фальклорнага ансамбля "Хажаўлянка" Яўгенію Чаброўскую, Лебедзеўскай народнай харавой капэлы Аляксандра Пыжыка і многіх іншых.

У горадзе 29 устаноў культуры, пяць з якіх пачалі працаваць у апошнія тры гады. Усё большае прызнанне набываюць абласны драматычны тэатр, лялечны тэатр "Батлейка". Множаць славу нашага горада, ды і ўсёй Беларусі, многія тутэйшыя людзі і калектывы. Заўсёды ў пашане імёны мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай, гісторыкаў Генадзя Каханоўскага, які, на жаль, нядаўна памёр, Міколы Ермаловіча, нашага земляка, выхадца з хоўхлаўскіх мясцін, артыста Дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, народнага артыста Беларусі Тадэвуша Кокштыса, якому на тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца-94" прысуджаны ганаровы прыз "Апантаны рамантык".

Ды і ў будучыню ўмеюць маладзечанцы глядзець. І зусім натуральна, што значную ўвагу надаюць самабытнаму нацыянальнаму мастацтву. Тут групуюцца і выхоўваюцца творчыя людзі. Калі вярнуцца ў мінулае, то ў свой час у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі вучыліся спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, паэт Міхась Чарот, грамадскі дзеяч Сымон Рак-Міхайлоўскі і многія іншыя выдатныя людзі Бацькаўшчыны.

На змену славутасцям ідуць тыя, хто сёння актыўна ўдзельнічае ў гарадскіх конкурсах юных талентаў "Маладзечанскі Парнас" і "Зорны шлях". Павел Ялецкі, выхаванец сектара практыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча, перамагаў у конкурсе маладых выканаўцаў імя Агінскага ў Смаргоні, у міжрэспубліканскім конкурсе піяністаў у Смаленску, а напярэдадні фестывалю "Маладзечна-94" таленавіты хлопчык з Маладзечна стаў уладальнікам Гран-пры ў малодшай групе выканаўцаў Першага міжнароднага конкурсу імя Марыны Цвятаевай і галоўнага прыза — піяніна "Беларусь".

Дарэчы, сваё душэўнае багацце, духоўную ўзвышанасць і маладзечанцы, і госці спаўна праявілі ў ходзе Першага нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі, які адбыўся летась.

Стала зразумелым: наш горад — якраз тое месца, дзе на дастаткова высокім узроўні могуць размаўляць прафесіяналы і публіка. Тут спявалі не толькі галасам, але і душою. І ў гэтым — сімвал жыццядзейнасці і жыццястойкасці беларускай песні і паэзіі, што і прадэманстраваў фестываль, які ўразіў зместам, размахам і гасцей, і саміх удзельнікаў. Тут неяк раптам усе мы адчулі новыя інтанацыі новага часу, з якога і пачынаецца новы адлік у нацыянальнай культуры. Слова "ўпершыню" тут чулася найчасцей. І ўсе радаваліся, што цяпер на Беларусі з"явіўся цудоўны ўласны фестываль. Беларуская эстрада, хоць і вялікімі намаганнямі, але паступова ўсё ж набывае свой твар, свае імёны.

Гран-пры журы ў мінулым годзе прысудзіла салістцы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Алене Саўленайтэ. А чыё імя сёлета пасля фестывалю "Маладзечна-94" будзе выгравіравана на пялёстках папараць-кветкі — эмблемы пераходнага прыза?

Няхай пераможа мацнейшы — і на беларускім эстрадным небасхіле заззяюць побач з імёнамі мінулагодняга фестывалю новыя. Стымул заваяваць першае месца і стаць дыпламантам ёсць у кожнага. Праведзена немалая арганізацыйна-творчая работа па падрыхтоўцы да фестывалю. Шчыра папрацавалі кампазітары і паэты. Наша прызнанне ім за гэта. А мастацкаму кіраўніку фестывалю, народнаму артысту Рэспублікі Беларусь Міхаілу Фінбергу і мэру Маладзечна Генадзю Карпенку — асаблівая пашана.

Радуе, што падрастае новая творчая змена таленавітых спевакоў, кампазітараў і паэтаў, а сённяшняя беларуская эстрадная песня знаходзіцца на меладычнай лініі, рытмічнай аснове, гарманічным кірунку. Каб у гэтым пераканацца, трэба было шмат папрацаваць. Калі да "Маладзечна-93" было падрыхтавана, апрацавана і адрэпеціравана 170 партытур, то да фэсту, што пачаў ужо сваё шэсце гэтым летам, — звыш 200. Ды і клас выканаўчага майстэрства саміх канкурсантаў павысіўся.

Горад гасцінна прыме і ўдзельнікаў, і гасцей. Ёсць спонсары. Дзякуючы ім закуплены прызы. Узнагароды за пяць лепшых песень атрымаюць выканаўцы, музыканты, паэты, аранжыроўшчыкі.

Што чакае нас у гэтыя чэрвеньскія дні? Дзесятага чэрвеня на гарадскім стадыёне пройдзе трэці тур конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні "Дапамажы нам, фартуна!" З удзелам Дзяржаўнага аркестра і яго мастацкіх калектываў пройдзе начны канцэрт "Джаз апоўначы". Урачыстае адкрыццё фестывалю і гала-канцэрт адбудуцца ў той жа вечар.

На наступны дзень будзе прадстаўлена беларуская паэзія ў эстраднай песні. Назва начнога гала-прадстаўлення — "Фестываль збірае сяброў". А каму не прыйдзецца даспадобы гала-канцэрт з удзелам лаўрэатаў конкурсу маладых выканаўцаў, эстрадных калектываў "Сябры", "Верасы", "Песняры", Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча з групай "Шчаслівы выпадак", "Палац", Аляксандра Саладухі, салістаў Канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь, шматлікіх гасцей фэсту?

Сваё майстэрства на сцэнічных пляцоўках прадэманструюць шматлікія калектывы Маладзечаншчыны.

Адным словам, фестываль "Маладзечна-94" абяцае ўпісаць у гісторыю нацыянальнай культуры яшчэ адну цікавую і запамінальную старонку.

Завітайце ў гэтыя дні ў горад — спадарожнік Мінска Маладзечна — і не пашкадуеце: вы атрымаеце асалоду.

*Аляксандр ХАЗЯНІН,*
*кіраўнік прэс–цэнтра*
*II фестывалю беларускай песні*
*і паэзіі "Маладзечна–94".*

# НЕ ПАТРЭБЕН І КЛАД...

*/Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар./*

Ды такое здаралася нячаста. У гэтых пятнаццаці сем"яў атрымлівалася ўсё, бо ў іх пануе лад і згода, як у той беларускай песні: "І мы жывём з табой на свеце: ты — для мяне, я — для цябе". І слова тут добрае, як лекі для сэрца, заўсёды ў пашане. У гэтых сем"ях ёсць многае, толькі вось упершыню яны змаглі так выйсці на людзі. І гэта незабыўнае!

Вось сям"я Валяр"яна Баляслававіча і Святланы Міхайлаўны Зенчыкаў. Яны шчырыя працаўнікі. Гаспадар — жывёлавод у калгасе "Дубравы", гаспадыня — выхавальніца ў мясцовай школе, Яўген Анатольевіч Ляшок — начальнік участка калгаса "Маладзечанскі", яго жонка Ганна Паўлаўна — памочнік брыгадзіра. Ушаноўваюцца сем"і трактарыста Генадзя Мартынавіча і Ларысы Сяргееўны Шэметаў з калгаса імя Дзяржынскага, механізатара Мікалая Іванавіча і загадчыцы фермы Таісіі Яўгенаўны Міхаленкаў, Мікалая Яўгенавіча і Валянціны Антонаўны Даніленкаў з навукова-вытворчай фірмы "Тэмп", Мікалая Аляксандравіча і Раісы Рыгораўны Разнічэнкаў з фабрыкі "Раёўка"...

Усім уручаюцца кветкі, музычныя падарункі са сцэны сем"і дораць гасцям. А ім прадстаўнікі гаспадарак і калектываў уручаюць каштоўныя падарункі, адрасуюць сардэчныя віншаванні старшыня Гарадзілаўскага сельсавета С.Ф.Кулеш, дырэктар гарадоцкага Дома культуры Н.М.Арлова, старшыня прафкома калгаса "Маркава" І.К.Сяргей, загадчык аддзела культуры райвыканкома І.В.Пяткевіч і іншыя.

Дабра і цяпла слаўным сем"ям, што жывуць, шчыра працуюць і росцяць прыстойнымі сваіх дзяцей — будучыню нашай роднай Бацькаўшчыны, жадалі старшыня райвыканкома А.Я.Луновіч і ініцыятар гэтага мерапрыемства намеснік старшыні Н.С.Гайковіч. А на памяць у "Кнізе гонару сям"і" лепшыя з лепшых сем"яў Маладзечаншчыны пакінулі свае роспісы. Пасля гэтай урачыстасці тут з"явяцца і сямейныя фотаздымкі.

Шчасця вам і добрай долі!

**НА ЗДЫМКАХ:** імгненні свята сям"і.

*Аляксандр АЛЯКСАНДРАЎ.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# НЕ ЗРЕЕТ ЛИ ЧЕРНОБЫЛЬ В ПРОБИРКЕ...

Публикация «Монстр по кличке «Гриб» («Труд», 19.02.94) вызвала многочисленные отклики. Неудивительно. Ведь главным ее героем было неведомое и опасное «нечто», которое вырастили в домашней лаборатории самодеятельные исследователи. Вскоре экспериментаторы вынуждены были уничтожить странный гриб, который не боялся никаких ядов, поедая все вокруг себя. Приводим несколько мнений по поводу этой странной истории.

К публикации «Монстр по кличке «Гриб» многие читатели отнеслись с предубеждением. Сама рубрика «Верить — не верить?» да и нескрываемый скепсис в комментариях экспертов комиссии «Феномен» наводят на мысль, что все это — плод авторской фантазии. И все же смею утверждать, есть основания отнестись к этому случаю повнимательнее. Дело в том, что подобные же опыты могут проводиться (а скорее всего, и проводятся) в секретных лабораториях, где создается биооружие. И хотя это направление в исследованиях всегда скрывалось за завесой секретности, иногда информация (совершенно случайно) просачивалась, например, в виде рыбацкой байки, которую я услышал лет десять назад от своего близкого знакомого.

Он жил в Степногорске — небольшом городке в Северном Казахстане. Население там особо ни в чем не нуждалось — высокий уровень жизни определялся тем, что в городке существовало какое-то секретное производство, работающее на оборонку. Но что это за «ящик», люди особо не распространялись. Мой знакомый тоже не любил об этом говорить. Лишь однажды случайно обмолвился — вспомнил, как ловил рыбу на необычную наживку.

«Малинку» — красных червяков, которые водятся в прибрежном иле, он, как назло, не смог намыть. И тут ему друзья предложили на пробу белесоватых червей, как они потом признались, из какой-то лаборатории. Они их оттуда потихоньку таскали, несмотря на строжайший запрет... Мой знакомый положил червячков в банку, накрыв ее марлей. Клевало на новую наживку хорошо. Но вот что странно: червячки прогрызли марлю и стали выбираться наружу. Тогда друг закрыл банку полиэтиленовой, а затем и пластмассовой крышкой. Но оказалось, что странные существа прогрызали любой материал...

Прошло десять лет, и вот я встретился с дочкой того рыбака — бойкой самоуверенной женщиной, совершенно не склонной к фантазиям. Невзначай зашел разговор об этих странных червях. И тут она сказала:

**«Действительно, у нас есть завод «Биопрепарат». Это не закрытое предприятие, но на его территории есть какое-то НИИ, о котором никто ничего толком не знает. И был как-то случай (лет восемь назад): из какой-то лаборатории этого НИИ случайно выбрались необычные тараканы. Они все пожирали на своем пути: листву деревьев, траву, словом, вели себя хуже саранчи. Та хоть ветки обглоданные оставляет...**

**Город запаниковал, когда эти твари, появившись на приусадебных участках, пожирали все, оставляя лишь голую землю. Неизвестно, чем бы это закончилось, но вмешались специалисты-химики. Обработали прожорливых насекомых какими-то специальными препаратами. Думаю, горожане до сих пор помнят, как сгребали в кучи этих непонятных жучков. Когда люди случайно наступали на них, раздавался характерный хруст, как будто целлулоидный шарик лопался...»**

Люди, которые поведали мне эти истории, попросили ни в коем случае не называть их фамилии и не ссылаться на них. И эту просьбу можно понять. Так уж устроены маленькие городки: в них не любят, чтобы выносили сор из избы.

А совсем недавно я снова услышал от степногорцев, что встречаются у них на пригородных участках странные, очень тонкие, как волоски, черви, активно пожирающие листву деревьев. Откуда они берутся, никто не знает.

Разумеется, эти факты нуждаются в серьезной проверке. Но замечу: если верно, что где-то проводятся опыты с тараканами и червями, то почему не использовать для этого и грибы? В нескольких сотнях километров от Степногорска — Омск, другие сибирские города и деревни. Может, в районе Байкала самодеятельные исследователи и наткнулись на такие экспериментальные образцы, занесенные дальними ветрами?

Единственное, что не подлежит сомнению,— опыты в области генной инженерии (независимо от их предназначения — мирного или военного) проводятся сегодня по всему миру. Порой эти работы касаются создания новых видов биологического оружия. Приблизительное представление о действии таких «экспериментальных образцов» рядовой читатель сможет получить, лишь когда случится ЧП. Так, например, было в Свердловске в семидесятые годы, когда вдруг десятки человек скоропостижно скончались от какой-то странной болезни. Ее потом назвали «сибирской язвой» и даже нашли мясо — источник заразы. Но настораживает избирательность заболевания (погибли только мужчины) и то, что рядом был закрытый объект, согласно журналистскому расследованию — военный городок, где проводились эксперименты в области микробиологии.

Так что история с грибом-монстром может послужить поводом к серьезным размышлениям. Мир сегодня стоит на пороге таких открытий в биологии, что человечество может подстерегать «биологический Чернобыль», несравнимый по масштабам со всеми предыдущими катастрофами.

**Александр ПУКЕМОВ.**
ТАШКЕНТ.

**ОТ КОМИССИИ «ФЕНОМЕН»:** **Из откликов, пришедших на публикацию «Монстр по кличке «Гриб», мы выбрали еще и письмо О. Ноздрина, который работал в свое время в Башкирском научном центре, в лаборатории гербицидов. Вот что он пишет:**

«Описание опытов с грибом-монстром выглядит вполне достоверно. Работа, проделанная самодеятельными исследователями, во многом совпадает с моими экспериментами. Исследуя нетрадиционные способы с сорняками и насекомыми-вредителями, я готовил экстракты различных растений и обратил внимание, что губительный эффект таких растворов усиливается, если он простоит в тепле десять—пятнадцать дней. Обнаружил, что за это время на экстракте образуется грибовидный нарост, который усиливает эффективность препарата. Любопытно, что подобный слизистый гриб возникал даже на растворах ядовитых растений...»

Далее О. Ноздрин довольно пространно рассматривает возможные причины возникновения странного гриба на растворах и делает вывод, что он распространяется не обычными порами, а «полевыми» — энергетическими структурами. Попав в питательную среду, такое «полевое» образование начинает строить себе материальное тело из молекул того вещества, в котором находится, поэтому «грибу» безразлично, из какого яда возникать, и его практически невозможно уничтожить.

**Итак, читатели выдвинули две версии появления гриба-монстра — секретные лаборатории военных и «полевые» споры, о возможности существования которых, кстати, говорит и академик В. Казначеев. Могут быть, конечно, и другие варианты. Где истина? Ответа пока нет. Но эксперты «Феномена» хотят напомнить, что в последнее время на Земле все чаще встречаются эпидемии неведомых болезней, первопричины которых врачи так и не смогли обнаружить. Напомним только странные смерти в племени индейцев навахо в Америке, вспышки алопеции в Черновцах, массовую гибель морских звезд в северных морях, загадочные отравления грибами в Центральной России... Эти происшествия требуют тщательного анализа, потому что если экологическая ситуация будет по-прежнему столь бесконтрольной, то, согласно «сценарию» Александра Пукемова, нас действительно ждет впереди «биологический Чернобыль»...**

«Труд».

# Какого Президента ждет Беларусь?

## Опыт бессистемного анализа с позиции здравого смысла

**В последнее время в республиканской печати появилось много публикаций, пытающихся так или иначе ответить на вопрос о том, нужен ли Республике Беларусь Президент. И если нужен, то какой? Разброс мнений в них настолько широк и противоречив, что у рядового читателя нередко голова идет кругом от многочисленных советов различных экспертов и аналитиков в отношении того, как выбирать и кого выбирать.**

Вот и недавно в двух изданиях новой экономической элиты — "Белорусской деловой газете" и газете "Белорусский рынок" появился — достаточно объемный — один и тот же материал, касающийся развернувшейся президентской кампании. Правда, напечатан он под разными заголовками:"Что ждет первого президента Беларуси" и "Президент-94: что последует за избранием?" и в первом случае опубликован без сокращений. Интересная деталь: в "Белорусской деловой газете" авторство публикации принадлежит группе экспертов Агентства гуманитарных инициатив, а в "Белорусском рынке" — независимой аналитической группе Агентства гуманитарных технологий. Более того, в "Белорусской деловой газете" напечатан и еще один материал этих же авторов, но именуются они уже как группа экспертов Института гуманитарных инициатив.

В общем, складывается впечатление, что молодые ученые, как их представляет газета "Белорусский рынок", пока еще настолько молоды, что даже не смогли прийти к согласию, как им себя называть. В конце концов, дело не в названии. Нас заинтересовало другое.

Практически впервые сделана осознанная попытка навязать избирателям стереотип нормативных представлений о том, каким должен быть Президент Республики Беларусь и кто из претендентов лучше всего подгоняется под схему "независимых экспертов и аналитиков". Таких кандидатов, "выпавших" из системного анализа в "позитивный осадок", оказалось двое — С.Шушкевич и З.Позняк. Именно они вроде бы способны реализовать весь перечень основных задач, поставленных перед страной молодыми учеными.

Однако, как говорится, хорошо все на бумаге, да попутали овраги. Оказывается, у населения республики независимо от "независимых" экспертов во многом уже сформировались представления о том каким критериям, прежде всего, должен соответствовать будущий президент государства.

Во-первых, опубликованы предварительные результаты сбора подписей избирателей инициативными группами. И, судя по ним, один из главных "нормативных претендентов" на кресло президента — С.Шушкевич — оказался почти замыкающим по количеству собранных голосов среди тех, кто имеет шансы преодолеть барьер регистрации кандидатов.

Во-вторых, в ряде средств массовой информации республики прозвучали некоторые данные опроса населения, проведенного Белорусской социологической службой "Общественное мнение". Отметим, что это исследование не имеет прецедента по своим масштабам. По квотно-пропорциональной выборке опрошено 14.200 избирателей, проживающих на территории всех без исключения административных районов Республики Беларусь. В силу вышеизложенного полученные результаты анкетирования характеризуются чрезвычайно высоким уровнем достоверности и репрезентации.

Кратко напомним отдельные из опубликованных результатов изучения общественного мнения жителей республики.

Так, на вопрос "Как Вы считаете, должен ли будущий Президент Беларуси представлять какую-либо определенную политическую силу?" абсолютное большинство избирателей (61,5% от их общего числа) ответили, что президент не должен представлять конкретную партию (организацию), а выступать от имени всего народа. Аналогично абсолютное большинство респондентов (57,7% от их общего числа) считают, что будущий Президент Беларуси должен придерживаться центристских взглядов (проведение экономических реформ постепенно, с учетом их негативных и позитивных последствий). Для сравнения: лишь каждый пятый избиратель полагает, что будущий президент должен придерживаться левых взглядов (восстановление общественной собственности, прекращение рыночных реформ, возвращение к плановому ведению народного хозяйства); только 12,5% предпочитают, чтобы будущий президент придерживался правых взглядов (установление частной собственности, максимально быстрое проведение рыночных реформ методом "шоковой терапии").

Каким другим требованиям должен соответствовать кандидат на пост Президента? Еще один вопрос анкеты, по которой проводилось изучение общественного мнения, сформулирован так:"Из какой профессиональной среды предпочтительнее избрать будущего президента?" Ниже мы приводим результаты ответа на него, любезно предоставленные социологами для публикации по просьбе редакции еженедельника (опрошенным разрешалось отмечать не более 3-х пунктов):

Государственный деятель — 30,6%

Хозяйственник (директор завода) — 19,6%

Специалист сельского хозяйства (председатель колхоза, совхоза) — 16,0%

Администратор (председатель исполкома) — 7,5%

Партийный деятель (руководитель одной из партий) — 5,2%

Ученый — 10,2%

Военный — 4,0%

Деятель культуры, образования — 5,0%

Работник правоохранительных органов — 11,0%

Предприниматель — 8,6%

Экономист, финансист (банкир) — 31,7%

Рабочий, крестьянин — 6,1%

Другой ответ — 2,6%

Профессиональная сфера значения не имеет — 15,5%

Затрудняюсь ответить — 6,1%

И еще одно требование избирателей, которое должно входить в позицию будущего президента. Это — обязательная поддержка им соглашения об объединении денежных систем Беларуси и России. Напомним читателям, что, по данным опроса граждан республики, проведенного социологической службой "Общественное мнение" 19-24 апреля текущего года, на вопрос "Поддерживаете ли вы соглашение об объединении денежных систем Беларуси и России, подписанное Председателем Совета Министров республики Вячеславом Кебичем?" абсолютное большинство респондентов — 65,8% от общего числа опрошенных — ответили:"Да, поддерживаю".

Таким образом, данные ряда социологических опросов потенциальных избирателей убедительно демонстрируют, что у белорусского народа в целом уже сложился облик "необходимого" (нормативного) кандидата в президенты, и мы имеем достаточно оснований сопоставить требования жителей Беларуси к будущему президенту с реальными претендентами на этот высокий пост.

### Сравнительная таблица соответствия претендентов на роль кандидатов в президенты, отвечающая представлениям об основных качествах будущего руководителя государства, доминирующим в общественном сознании

| Основные требования белорусских избирателей к кандидатуре будущего Президента | Претенденты на роль кандидатов и степень их соответствия требованиям, предъявляемым к будущему Президенту избирателями | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кебич | Новиков | Позняк | Лукашенко | Шушкевич | Дубко |
| 1.Президент не должен представлять конкретную партию, а выступать от имени всего народа | Полностью соответствует требованию | Представляет ПКБ, ДСПС | Представляет БНФ | Представляет Славянский Собор "Белая Русь" | Представляет БСДГ и ОДПБ | Представляет АПБ |
| 2.Президент должен придерживаться центристских взглядов. | Полностью соответствует требованию | Придерживается левых взглядов | Придерживается правых взглядов | Придерживается умеренно левых взглядов | Придерживается умеренно правых взглядов | Придерживается умеренно левых взглядов |
| 3.Президент должен быть профессиональным экономистом и государственным деятелем, имеющим опыт хозяйственного руководителя — производственника. | Председатель Совета Министров с апреля 1990 г., кандидат экономических наук | Освобожденный секретарь ЦК ПКБ, по образованию — философ | Историк, кандидат искусствоведения | До апреля 1994 г. — директор совхоза | Директор исследовательского Центра Европейского гуманитарного университета, член-корреспондент АН Беларуси | Председатель колхоза |
| 4.Президент должен поддерживать объединение денежных систем Беларуси и России. | Является инициатором объединения | Поддерживает | Категорически против | Поддерживает с оговорками идею, но не само соглашение | Выступает против подписанного соглашения | Поддерживает |

**Информационно-аналитическая служба «7 дней»**

